**Харчы з Познані**—з Гнезна і Торна прыбываюць гэтымі днямі у Менск у ліку 10 вагонау з бульбай моркаую і бручкай. З прычын браку крытых вагонау, агароднiны адпраулены у пляцформах і зьмерзьлі.

**Цукер і гарбата** закупленые у вялікім ліку харчовым аддзелам магістрату (7 вагонау цукру і два гарбаты) у хуткім часе прыбудуць у Менск для раздачы па картачках праз коопэратывы.

**Манаполію на сахарын** у Менскім округу, дзеля барацьбы з гэтай спэкуляцыяй, проэктуецца увесьці у пачатку сьнежня.

**Газа, дзег ць, свечкі і інш.** прыбываюць з Варшавы па адрасу Цэнтрабелсаюзу 20-га лістапада для раздачы вясковым коопэратывам.

**У Мянальных канторах**, ня гледзячы на прыказы улады, польскіе маркі цэняцца па ніжэйшаму курсу: за 100 польскіх марак—92 руб. царскімі.

Паміж іншымі:
за 100 „кер".—11 руб. „цар."
за 250 „дум."—87 руб. „цар."

**У безработных чыгуншчыкау** у нядзелю, 16-га лістапада, ад 1-гадзіне у дзень адбудзецца агульны сход дзеле разляду бягучых пытаньняу.

Глаунае пытаньне—адносіны да выбарау у мястовую раду: ці выступаць з адзельным сьпіскам ці не? Есьць розные пагляды.

**Організацыйны сход** новага польскага фінансавага т-ва, каторы стварыуся страньнем начальніка округу, адбудзецца сягодня 13 га лістапада.

У організацыі т-ва прыймаець удзел групы мясцовых і пазнанскіх буйных земляуласьнікоу і прамысьнікоу разам з казною.

Асноуны капітал—25,000,000 р.

**Грабежствы і напады** на вуліцах да гэтага часу ня спыняюцца. Штадня падаюць у цыркулы заявы аб розных налетах, грабежствах і свавольных рэквізыцыях. Некаторые бандыты „работаюць" пад відам салдатау. Яны нібы-то робяць рэвізыі, забіраючы пры гэтым усе, што ім падабаецца, часам зьдзекуючыся над сваімі ахвярамі або вядуць іх па вуліцах места і затым адпускаюць.

У апошні час крымінальнай паліцыяй затрыманы рад відных праступнікау.

**Вулічная страляніна.** 9-га лістапада на Івачаускай вуліцы ішла пані Е. Кіркевіч. На рагу гэтай вул. і Сьлесарнай яна была ранена у сьпіну выстралам, якіе цяпер уночы чуюцца вельмі часта. Паню Кіркевіч забралі у жыдоускі шпіталь па вул. Францішканскай.

## Пазнаньне роднага краю.

### Возеро Сяргеевічы.

Пpаточнае возеро Сяргеевічы, маючае вярсты тры у шырыню і вярсты тры з палавінаю у даужыню, ляжыць на паудгева-заходняй частцы Ігуменскага павету. Круглае, з мала зрэзанымі берагамі, яно мае на пауночнай старане сваей затоку. З заходу у возеро бяжыць вузенькая рачулка Несьвяча і некольні малых канау. Несьвяча у верхней сваей частцы цячэ па узгоры і шыбка бягучая вада яе нясе з сабой у возеро масы пяску, ілу і інш. Усе гэта тут-жа, каля заходняго берагу, асядае на працягу каля сарака сажон ад берагу і спахваля робіць з яго балото, якое зарастае балотнаю расьлінаю, робіцца зыбкім берагам, а з часам і добрай сенажацью. Новыя і інш. рэчы прынесеные Несьвячай зноу асядаюць каля берага і зноу адбіраюць у возера якую частку яго.

Але возеро падмывае усходні пяшчаны бераг і такім парадкам адходзіць на усход, хаця усеж-такі зарастаньне заходняга берагу ідзе скарэй і возеро у далекай будучыне зарасьце.

З паудневага берага возера выцякае нівялікая рэчка, якая у вярсьце ад возера, павярнуушы на усход, раздваяецца, прабегае так верст пяць, зноу злучаецца і упадае у Птіч.

Рыбы у возеры іншымі гадамі вельмі многа, якая находзіць сюды з Птічы Пры рацыянальнай пастаноуцы рыбнай гаспадаркі, возеро давало-б вялікі даход.

Прафэсіанальных рыбаловау вельмі мала, ды многа і не магло быць, бо возеро належыло прыватнай асобе, а у пасьледніе часы сяляне, маючые у рыбалоустве пабочны даход, і самі рыбаловы не змаглі без помачы са стараны завесьці добрую гаспадарку і павялічыць лік людзей, карыстаючых з возера.

На захад ад возера разляглiся, хаця і балоцістые, але усе-такі даючые многа добраго сена сенажаці, аж да вялікага лесу—старыне. А на усход і паудзен расьцілаецца хваевы лес і паля.

Нідалек ад возера на паудневы захад выступаюць адкладаньня: Сілlурыйскай сыстэмы, Палеозыбской эры—глауконітавые вапны, дзе і істнуюць вапельні.

Самы багаты бераг харaством паудневы.

М. Віхр.

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



Друкарня Інвалідау, Менск.